

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 4 (42)
Люты
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# Шумят...

Во вторник, 10 февраля, на первой странице главной газеты Могилёвской области «Могилёвские ведомости» появилась статья Г.Гаврилович под громким названием «К проблемам людей - без бюрократизма». В ней речь шла о сессии Могилёвского областного совета депутатов на которой «слуги народа» и руководящий актив области анализировали проводимую в регионе работу по жизнеобеспечению населения, обращения граждан и дебюрократизации государственного аппарата. Вопрос, безусловно, очень актуальный и многогранный. Обсудив имеющие место недостатки «слуги народа» и приглашённые однозначно решили, что работу с обращениями граждан, их жизнеобеспечение надо улучшать. Похвально. Но как практически всегда происходит в нашем государстве, большая часть энергии уходит на проведение совещаний, а не на системную и постоянную работу с людьми. Рассмотрим это на примере проблемы обеспечения работой населения агрогородка Веремейки Чериковского района.

Во второй половине 2014 г. на местном свинокомплексе ЧТУПП «Агрокомплекс «Светлый», по неофициальной, но достоверной информации была зафиксирована вспышка АЧС. Причина её возникновения так и не была точно выяснена. По мнению специалистов на комплексе в полной мере были соблюдены все противоэпидемиологические меры безопасности. Погибло только несколько голов свиней. Остальные, по информации работников комплекса и населения Веремеек, были вывезены, и, предположительно, забиты. Сегодня на комплексе, по информации работников «Светлого», свиней нет. Работает только несколько человек из числа строителей и ветеринарных врачей, которые очищают и ремонтируют помещения, проводят дезинфекцию. По тем же источникам информации, к началу марта на комплекс планируется завести пробную партию свинопоголовья из соседнего Мстиславского района. Людей заверяют, на уровне администрации предприятия, что к лету у них появится работа. По словам специалистов «Светлого», ни какой АЧС на комплексе якобы нет. Более трёх месяцев тому назад в Витебск завезли образцы свинины для анализа и выявления причины гибели животных, но до сих пор официального ответа нет. Нет по этому поводу, никакой информации и в официальных СМИ. Фактически, власти держат население Веремеек, и не только, в режиме информационной изоляции. Ведь не для кого не секрет, тот факт, что «кто владеет информацией, тот владеет всем миром». Лишая собственное население достоверной и своевременной информации, власть фактически отстраняет его от решения всех вопросов жизнеобеспечения.

То, что в свиноводческой отрасли Беларуси всё не так просто, как говорят чиновники с высоких трибун, экранов и страниц официальных СМИ косвенно подтвердила недавно «Сельская газета»(«СГ»). Её постоянные читатели прекрасно знают и помнят, что все последние годы на её страницах регулярно печатаются таблицы с данными о работе районов и областей республики по производству молока и мяса за каждый квартал по нарастающей. Вот и 3 февраля «СГ» опубликовала такие данные по итогам работы за 2014 год, но при этом полностью исключила таблицы с информацией о итогах работы свинокомплексов Беларуси. Даже в текстовом сопровождении таблиц, нет ни одного слова о свиноводстве. Исходя из всего вышесказанного вызывает сомнение и объективность информации под названием «Свиноводство: пути возрождения», появившейся на страницах Могилёвской аграрной газеты «Земля и люди»(«ЗЛ») от 11 февраля. Она дана в виде интервью журналистки газеты Д.Гараниновой с заместителем председателя комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Могилёвского облисполкома Елены Шибут. В своём интервью она в частности заявляет: *«Сегодня все свиноводческие комплексы заполнены поголовьем в соответствии с проектной мощностью. За счёт улучшения технологии производства свинины среднесуточные привесы на выращивании и откорме возросли к уровню 2013 года на 4 г. - до 536. За август – декабрь дополнительно отобрано для осеменения 5200 свинок».* Прекрасно. Но если все комплексы заполнены в соответствии с проектной мощностью и приплюсовали по привесу на 4 грамма к уровню 2013 года, то почему в этом же интервью звучит следующее: *«По итогам работы за январь - декабрь 2014 г. в целом по области произведено 32,7 тыс. тонн свинины в живом весе или 79,5% к уровню 2013 года. Снижение объёмов производства свинины в той или иной степени допущено во всех районах, развивающих свиноводство. На 1 января численность свиней в сельхозорганизациях области сократилось к 2013 году на 25,9%. Только в Кировском и Климовичском районах отмечается рост поголовья на 8,8 и 4,6 % соответственно».* Если внимательно почитать и сравнить всё написанное в «ЗЛ» от 11.02.2015 г. исходя из слов Е.Шибут, то можно найти и ещё некоторые «не состыковки». На деле получается так: пока верхи власти «шумят» и совещаются о том как улучшить работу с населением, «низы» делают то, что считают нужным и удобным для себя. А как уже давно известно, и как гласят библейские истины, на лжи и обмане людей, ничего хорошего не построишь. СССР развалился прежде всего по этой причине.

*Вадим ЗАБРОДОВ.*

# Мікалай Статкевіч спадзяецца на аб'яднанне калегаў па апазіцыі

***Палітвязень Мікалай Статкевіч, адзіны з кандыдатаў у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, які застаецца за кратамі, выказаў спадзяванне на тое, што яго "калегі па апазіцыі" аб'яднаюцца хоць нейкім чынам вакол ідэі аб яго вылучэнні ў якасці адзінага кандыдата.***

Свае спадзяванні палітвязень выклаў у лісце да бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча, які той атрымаў 13 лютага. Ліст быў напісаны Мікалаем Статкевічам у Шклоўскай ПК-17 7 лютага.

У прыватнасці, выказваючыся пра ідэю аб сваім вылучэнні ў якасці адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года ў Беларусі і паведамленнях прэсы аб некалькіх намерах стварыць ініцыятыўную групу ў яго падтрымку, Мікалай Віктаравіч піша: *"…Спадзяюся, што ініцыятыўная група будзе адна і калегі па апазіцыі аб'яднаюцца хоць такім чынам. Дзеля гэтага я і даў згоду на гэты план, бо проста "піяр" мне нецікавы. Ды і сітуацыю маю гэта не палепшыць, калі не наадварот. Але дзеля аб'яднання я патрываю. Тым болей, што сілаў у мяне вытрываць усё хопіць. Нягледзечы на пашпартны ўзрост".*

Мікалай Статкевіч у лісце таксама распавёў пра ўмовы свайго ўтрымання ў шклоўскай калоніі. Палітвязень піша, што тут ён зараз апынуўся абмежаваны ў доступе да інфармацыі з волі, *"бо тут крыху заблыталі з падпіскай. У выніку з сярэдзіны студзеня і ў лютым апынуўся без газет, за выключэннем "Новага часу". Ды і той прыносяць не ўсе нумары і са спазненнем ледзь не на тыдзень. Яшчэ з крыніцаў інфармацыі ў атрадзе ёсць адзіны тэлевізар, які даззваляецца глядзець раніцай і ўвечары. Праўда, занадта часта забіраць у маіх калегаў магчымасць паглядзець DVD-серыялы ці музыку, каб паслухаць навіны, сумлення не хапае. Бо радасцяў у іх і так небагата. Але ж за асноўнымі падзеямі сачу. Тут працаваць на прамзону мяне не пусцілі – кажуць, каб не атрымаў траўму. Увесь час у атрадзе і пад пастаянным наглядам. Выходжу толькі строем у сталовую ды прыбіраць снег (таксама пад наглядам). Снегам прыходзіцца займацца шмат, ды і ў астатні час сядзець не даюць. Як я разумею. Разлік на мой "пашпартны" узрост і псіхічны стан пасля 3-х гадоў камеры. Але ж пасля камеры кідаць снег на свежым паветры – вялікае задавальненне. І ніхто не дачакаецца, каб я кінуў той шуфель і даў магчымасць усё зрабіць, што ім трэба, "па законе". Прыйдзецца рабіць, як раней. Карацей, тут пакуль што ўсё ідзе па алгарытму 2011 г. Вось толькі ўсё гэта ўжо было і таму не ўражвае".*



Па словах Барыса Вырвіча, з ліста бачна, што Мікалай Статкевіч знаходзіцца ў добрым псіхалагічным настроі, не зважаючы на пасілены кантроль з боку адміністрацыі шклоўскай калоніі. Палітвязень трымаецца вельмі мужна і выказвае ўпэўненасць, "што ўсё будзе добра".

Нагадаем, што Мікалай Статкевіч быў узяты пад варту пасля падзей на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску 19 лютага 2010 года. У траўні 2011 года быў асуджаны судом Ленінскага раёна г. Мінска да шасці гадоў пазбаўлення волі ў умовах узмоцненага рэжыму па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады). Рашэннем суда ад 12 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі змененыя на больш жорсткія: Мікалай Статкевіч быў пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.

12 студзеня 2015 года палітвязень быў зноў этапаваны для далейшага адбыцця пакарання ў шклоўскую папраўчую калонію №17.

***Іван БАРЫСАЎ.***

### *Шклоўская калонія адзначыла юбілей*

**Шклоўская раённая газета "Ударны фронт" змясціла на сваіх старонках вялікі артыкул, прысвечаны поспехам і дасягненням мясцовай папраўчай калоніі №17 - да 35-гадовага юбілею гэтай установы.**

**Папраўчая калонія №17 агульнага і пасіленага рэжыму прызначана для асоб, якія ўпершыню адбываюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі. Зараз у калоніі 1270 асуджаных па самых розных артыкулах КК – ад бытавых злачынстваў да забойстваў і карупцыйных злачынстваў. Нагадаем, што ў свой час у шклоўскай ПК-17 адбывалі пакараранне цэлы шэраг беларускіх палітвязняў – Зміцер Дашкевіч, Алег Гнедчык, Аляксандар Класкоўскі, Уладзімір Лобан, Дзмітрый Новік, Арцём Пракапенка, Мікалай Дзядок. Адбывае тут свой тэрмін і кандыдат у прэзідэнты РБ на выбарах 2010 года Мікалай Статкевіч.**

**Начальніку Шклоўскай ПК-17 палкоўніку Сяргею Ермаліцкаму ў кастрычніку 2011 года быў забаронены ўезд у краіны Еўрапейскага Саюза за жорсткае абыходжанне са зняволенымі**

# Душна!..

Напэўна, будзе глупствам ў нашай краіне чаму-небудзь яшчэ здзіўляцца, але гэтая «мышыная валтузня», названая «барацьбой з дармаедствам» ніяк не можа пакінуць абыякавымі хоць хоць трохі разважнага чалавека. Ужо не смешна, што ў гэтую «свістапляску» ўцягнутыя не толькі дзяржструктуры ў асобе выканкамаў, органаў МУС і пракуратуры, але і тыя, каго мы выбіраем для вырашэння нашых праблем - дэпутаты раённых і абласных Саветаў. Чаму дэпутаты павінны займацца выяўленнем і прыцягненнем «дармаедаў» да грамадска карыснай працы, я ніяк не магу зразумець. Хоць цяпер я па-іншаму пагляд зела на падзею дзесяцігадовай даўніны, калі сама была дэпутатам раённага савета і нас абавязалі «лічыць сабак па дварах», бо нейкаму разумніку прыйшло ў галаву абкласці хатніх сябрукоў і бобікаў падаткам, каб папоўніць раённы бюджэт. Дзякуючы майму высмейванню і прыцягненню незалежнай прэсы, гэтую абсурдную «ідэю» адмянілі, але сама ідэя працягвала жыць у галовах не толькі нашых, раённых, чыноўнікаў, але і тых, якія намі «кіруюць». Чым адрозніваецца пералік сабак ад пераліку «дармаедаў»? І там, і там трэба ведаць колькасць дадзеных асобін. Я не магу зразумець, чаму гэтым павінны займацца дэпутаты. Я б зразумела, калі б яны сталі патрабаваць адкрыцця новых прадпрыемстваў, новых працоўных месцаў, сталі вывучаць праблемы занятасці насельніцтва, з мэтай гэтаму насельніцтву дапамагчы. Гэта значыць, сваімі прамымі абавязкамі перад народам. Бо мы іх для таго і выбіраем, каб у цяжкую хвіліну было да каго звярнуцца па дапамогу.

Бяда ў тым, што ў нашым грамадстве перамяшаліся ўсе паняцці, якімі жыве любая сучасная краіна, у якой развіваецца дэмакратыя. І вось у нас існуюць не грамадскія прыёмныя пры райсаветах і аблсаветах, а нейкія канторы, пад назвай «адно акно». І ў гэтых канторах занятыя людзі, пры звароце да якіх мы вымушаныя адкрываць дзясяткі дзвярэй, таму што самі яны нічога не вырашаюць. У той жа час праз пару месяцаў пасля выбараў мы забываемся, каго ж мы абралі сваім дэпутатам, таму што зусім незразумела, а дзе я магу з ім сустрэцца, каб абмеркаваць сваю праблему.

Тое, што ў краіне існуе праблема занятасці - гэта ўжо не адкрыццё, а канстатацыя факту. Мы плацім за тое, што ва ўгоду «добрай справаздачнасці» хавалі беспрацоўе. Нам так хацелася даказаць усяму свету! (А навошта?), што наша «мадэль развіцця» ўнікальная, што беспрацоўе ў нас займае ўсяго дзясятыя долі працэнта. І што ж? У што вылілася наша страусіная пазіцыя? Наша прыхаваная сістэма занятасці работнікаў у вытворчай працы прывяла да таго, што бюракратычны апарат разросся да неймаверных межаў, які ўжо немагчыма пракарміць, а ў той жа час колькасць працоўных месцаў скарачалася. Мы секлі сук, на якім сядзім. Самыя працавітыя і творчыя людзі з'язджалі з краіны на «заробкі», а тыя, што заставаліся, цярпелі зневажальнае стаўленне да іх кіраўніцтва тых нешматлікіх прадпрыемстваў, што трымаліся «на плаву». Прэстыж працы ўпаў так нізка, што многія не лічаць ганебным наогул не працаваць. Немалаважную ролю адыграў і фактар аплаты працы. Чалавека вымушаюць «працаваць» за «капейкі», якія ў нас называюць мільёнамі. Ва ўсім свеце няма столькі мільянераў, як у нашай краіне. І гэта пры тым, што ўжо за дваццаць гадоў адкінулі пяць нулёў. І калі іх дадаць, то скрынка запалак каштуе 30 000 000 беларускіх "зайчыкаў". І хоць ужо на працягу больш за тры гады чыноўнікі вырашаюць задачу «прыбраць ці не прыбраць» яшчэ тры нуля з нашых грошай, жыць нам станавіцца ўсё цяжэй. І напэўна пытанне на абмеркаванне трэба ставіць больш актуальны: мо прыйшла пара «прыбраць» частку чыноўнікаў, многія з якіх ужо з'яўляюцца «заслужанымі» пенсіянерамі? Каб не перашкаджалі маладым працаваць. А заадно і перагледзець сістэму выбараў, таму што ўсе нашы беды пачынаюцца з яе. Мы трацім прорву грошай на ўсе гэтыя псеўдавыбары, каб потым самім жа пакутаваць ад нашых абраннікаў. На ўсіх узроўнях!

Напэўна, народу пара задумацца, ці можна жыць па прынцыпе «мая хата з краю»? Ці ўсёткі наш лёс у нашых руках? І час патрабаваць хаця б з нашых абраннікаў - а што вы асабіста зрабілі для народа? І як збіраецеся вырашаць праблемы сваіх выбаршчыкаў, якія цяпер у перыяд крызісу масава губляюць сваю працу? Хопіць трымаць нас за «бобікаў», абвінавачваючы ў тым, што мы не хочам працаваць! Навучыцеся спачатку працаваць самі, а не ствараць бачнасць працы.

Слухаючы выказванні чыноўнікаў розных узроўняў пра «дармаедства», я ні разу не пачула пра тое, каб яны былі заклапочаныя адкрыццём новых працоўных месцаў. Пытанне складаецца толькі ў тым, як распрацаваць механізм канфіскацыі грошай у так званых «гультаёў». Спадары! Гэтае пытанне вырашалася яшчэ больш за дзве тысячы гадоў таму назад, пакінуўшы нам крылаты выраз «грошы не пахнуць». Не стану спрачацца з гэтым класічным выразам! Але чамусьці ў нашай краіне многіх ужо «ванітуе» не толькі ад «ідэй» улады, але ўжо і ад сузірання незмяняльнай асоб. Мы, як у спальні пры закрытай фортачцы пасля вяселля ўсё спім і не можам адысці ад пахмелля. І ад нас залежыць, пацягнецца наша рука да «чаркі» ці распахне акно, каб працвярэзіцца ад, хай халоднага, але свежага паветра.

Душна !!!

*Зінаіда МІЛЕШЧАНКА.*

# Отпевать или спасать?

По итогам работы за 2014 год производство скота и птицы к уровню предыдущего года в Могилевской области увеличилось на 3,1%, а привесы свиней - на 4 грамма. И хотя темпы роста производства мяса по итогам прошлого года самые большие в стране, радоваться данной ситуации преждевременно. И виной этому – состояние производства свинины в области. Судите сами, за январь-ноябрь 2014 г. оно составило 30,2 тыс. тонн или только 79% к показателю аналогичного периода 2013 г., свинопоголовье снизилось почти на треть (на 108,6 тыс. голов – с 335,3 до 226,7 тыс. голов), на четверть сократилось количество сельхозорганизаций, занимающихся производством свинины на промышленной основе.



Наибольшее снижение производства свинины допущено в Осиповичском районе (произведено только 30,9% к уровню соответствующего периода 2013 года), Славгородском (39,7%), Чериковском (60,1%), Глусском (61,0%), Кличевском (66,2%) и Чаусском (66,3%) районах. Привесы свиней снижены в 7 районах области: в Чаусском (70,4%), Кировском (87,2%), Кличевском (88,5%), Славгородском (89,9%), Горецком (92,7%), Могилевском (95,8) и Климовичском (99,8%) районах.

В области снизились и весовые кондиции поставляемого на переработку скота. Если за 11 месяцев 2013 года средний вес одной сданной на убой головы составлял 89,7кг, то в январе-ноябре прошлого года – лишь 86,5 кг или 96,4%.

Основной причиной снижения поголовья свиней является ликвидация 65,8 тыс. скотомест на 78 свинотоварных фермах вследствие несоблюдения ветеринарно-санитарных норм содержания свиней и обеспечения должной биологической защиты поголовья. Следствием этого стало выявление во втором полугодии 2014 г. вспышек африканской чумы свиней на свинокомплексах УП «Агрокомплекс «Светлый», УП «Агрокомплекс «Огневское» (входят в состав холдинга «Могилевхлебопродукт»), КСУП «Племзавод Ленино» и ОАО «Агрокомбинат «Восход». В результате ликвидировано свинопоголовье стоимостью 10,8 млрд. рублей, работа 3-х свинокомплексов (УП«Светлый» Чериковского, УП «Огневское» Славгородского районов) приостановлена. При этом в ОАО «Могилевхлебопродукт» выявлена недостача (в результате приписок) поголовья свиней живым весом на 30,3 млрд. рублей, а также завышение производства (живого веса) свиней на 34,6 млрд. рублей. Кстати, значительные завышения показателей эффективности животноводства в производственной и статистической отчетности УП «Агрокомплекс «Светлый» и УП «Агрокомплекс «Огневское» выявлялись и в 2011-2012 гг.

На многих комплексах области на протяжении 2014 года также не обеспечивалось в полной мере соблюдение соответствующих ветеринарных требований по профилактике и борьбе с африканской чумой свиней: недостатки в организации биологической защиты выявлены в СПК «Полыковичи», СДП «Авангард» Могилевского, СПК «Мазоловский» и ОАО СГЦ «Вихра» Мстиславского, ПУ «Сосны» ОАО «Климовичский комбинат хлебопродуктов» Климовичского, ОАО «Александрийское» Шкловского районов. При этом в ОАО «Александрийское» они допускались даже на единственном в области свинокомплексе, который спроектирован и построен с учетом последних требований к функционированию свиноводческих объектов закрытого типа. На большинстве комплексов области не обеспечивается надлежащая организация работы дезбарьеров и санпропускников, централизованное питание работников, не выполняются требования ветеринарно-санитарных норм о полном асфальтировании технологических площадок и проездов свинокомплексов (требуется асфальтирование значительной территории свинокомплексов КСУП «Племзавод Ленино», СПК «Мазоловский», УП «Агрокомплекс «Светлый» и ПУ «Сосны» ОАО «Климовичский комбинат хлебопродуктов»). В СПК «Полыковичи» и СДП «Авангард» выявлено кормление поголовья негранулированными кормами, в СПК «Мазоловский» не была оборудована душевая кабина в здании убойно-санитарного пункта и отсутствовал подогрев дезбарьера на въезде в производственную зону, в ОАО «Александрийское» и ОАО СГЦ «Вихра» выявлены недостаточное заполнение дезраствором дезбарьеров, необеспечение требуемого пропускного режима при перемещении работников по территории, проезд транспорта без его получасового отстоя после дезобработки. В ПУ «Сосны» ОАО «Климовичский комбинат хлебопродуктов» не выполнялись требования ветсаннорм к расположению здания для карантирования свиней (размещено непосредственно на территории комплекса вместо необходимых 50 м от него), допускалось пересечение путей перемещения трупов свиней с путями пе-

ремещения кормов, допуск въезда постороннего транспорта (комбикормовозов) в «чистую» зону свинокомплекса. В КСУП «Племзавод Ленино» допускалось непроведение дезинфекции въезжающего на территорию свинокомплекса транспорта, неполное ограждение свинокомплекса, непринятие мер по ограничению пропускного режима при въезде на его территорию и перемещении рабочих из «грязной» зоны в «чистую», продажа свиней без согласования с главным государственным ветеринарным инспектором района, складирование на территории комплекса оборудования, демонтируемого из свинарников, где содержался заболевший скот. В ОАО «Агрокомбинат «Восход» грязная спецодежда хранилась в чистой зоне санпропускника, не был организован достаточный контроль за прохождением санобработки работников комплекса, допуск на его территорию посторонних лиц без согласования с госветслужбой.

Не обеспечивалась в полном объеме биологическая защита поголовья в 2014 году в ОАО «Бобруйский комбинат хлебопродуктов», ОАО «Глусский райагропромснаб», УКСП «Ольса», СПК «Колхоз им.Ленина», УКСП «Совхоз «Доброволец», СПК «Красный борец», СПК «Колхоз «Прогресс».

Установлено, что в результате вспышки АЧС на свинокомплексах «Светлый», Огневское», «Племзавод Ленино» и «Восход» пало 18509 свиней, преждевременно сдано на переработку 51955 голов. Вследствие этого ОАО «Могилевхлебопродукт» недополучено более 36,1 млрд. рублей выручки при стоимости падшего поголовья 10,7 млрд. рублей, допущен вред государственному имуществу КСУП «Племзавод Ленино» в размере 41 млн. рублей и ущерб имуществу ОАО «Агрокомбинат «Восход» в размере 37 млн. рублей.

Такое положение дел в отрасли свиноводства обусловлено в большей степени низкой исполнительской дисциплиной работников свиноводческих организаций, но и приниженным контролем со стороны чиновников Могилевского облисполкома. Эти просчеты в работе с отраслью ставят под сомнение выполнение задания Государственной программы устойчивого развития села на 2011-2015 годы по доведению к 2016 году привесов свиней до 650 г в сутки. Или хотя бы восстановления до 1 апреля текущего года объемов производства свинины не ниже уровня 2012 года. При этом чиновники «кивают» на слабую материально-техническую базу отрасли свиноводства и нехватку финансовых ресурсов у сельхозпроизводителей для решения даже текущих проблем.

Удивляет позиция областного руководства по отношению к нежеланию руководства мясокомбинатов участвовать в финансировании развития своих сырьевых зон и ориентированных на импортное сырье (в 2014 году закуплено свинины по импорту на 4,2 млн. долларов США).

Кстати, анализ показывает, что свиноводческие организации, особенно крупные, распределены на территории области неравномерно и сконцентрированы в Могилевском (6 хозяйств), Бобруйском, Костюковичском, Мстиславском (по 3), Горецком, Климовичском, Кричевском (по 2), Чаусском, Глусском, Кировском и Шкловском (по 1) районах. В 10 районах области поголовья свиней в сельскохозяйственных организациях не имеется. И это тоже в определенной степени влияет на эффективность ведения хозяйства, в частности, возможности приобщения успешных промышленных предприятий к решению проблем свиноводства.

Отпевать данную отрасль в области пока рано. Тем более, что в целях выполнения поручений Президента по восстановлению поголовья свиней и объемов производства свинины в области намечено строительство новых, реконструкция и восстановление ранее закрытых свиноводческих объектов, что должно обеспечить рост производства свинины с 33,0 тыс. т в 2014 году до 68,5 тыс. т в 2018 году.

В тоже время, намеченные мероприятия по восстановлению поголовья и объемов производства свинины из-за недостаточного уровня финансирования осуществляются медленно, во многих хозяйствах по-прежнему нарушаются ветеринарно-санитарные правила содержания свиней, качество кормления поголовья желает лучшего, что ставит выполнение мероприятий под угрозу. Впрочем, время покажет.



***Пётр МИГУРСКИЙ.***

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**У дзясятку лідэраў па фарміраванні бюджэту вобласці ўваходзяць ААТ "Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод" (4,7% у агульных паступленнях па вобласці), ЗЗАТ "Бровары Хайнэкен" (2,9%), РУП "Магілёўаблгаз"(2,2%), РУП "Магілёўэнерга" (2,1%), філіял "Бабруйскі Гандлёвы цэнтр" Карона "(1,1%), філіял ТАА"Еўрагандаль" у г. Магілёве (0,9%), ААТ "Задняпроўе" (0, 7%), Магілёўскі філіял РУП "Белтэлекам" (0,7%), ААТ "Белшына" (0,6%), ААТ "Бабруйскі завод біятэхналогій" (0,6%). Пералічанымі плацельшчыкамі за студзень 2015 г. выплачана ў бюджэт 134 млрд. рублёў, што складае 89,8% паступленняў ад буйных арганізацый і 16,5% агульных паступленняў у кансалідаваны бюджэт вобласці. Усяго за студзень 2015 г. ў кансалідаваны бюджэт Магілёўскай вобласці паступіла 816,5 млрд. руб., з іх у мясцовы бюджэт - 770,0 млрд. руб., у рэспубліканскі - 46,5 млрд. руб. У параўнанні з аналагічным перыядам папярэдняга года даходы бюджэту павялічыліся на 3,3% ці на 26,4 млрд. руб. у фактычным вылічэнні.**

**У агульнай суме даходаў бюджэту 88,0% (718,5 млрд. руб.) прыпадае на арганізацыі ўсіх форм уласнасці, 12,0% (98,0 млрд. руб.) выплачана індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі.**

***Антон ДУБАЛОМАЎ.***

# Гітара, як сімвал беларускай душы

Аднойчы, адпачываючы ў гарадскім парку, пачуў гукі гітары. Спеў пад гітару закрануў душэўныя пачуцці, бо ў юнацкім узросце захапленне "дрымчаць на гітары" належыла таксама і мне асабіста. Падышоўшы бліжэй, я ўбачыў як некалькі юнакоў, стварыўшы невялікае кола, ўважліва слухалі спевы юнага гітарыста. Самадзейны артыст вельмі імкнуўся зрабіць уражане на прысутных, і ў яго сапраўды гэта атрымлівалася. Але не толькі ягоны спеў і гукі гітары закранулі маю цікавасць, а ў большай ступені менавіта тое, што хлопец спяваў па-беларуску.

Мае асабістыя юнацкія гады прыпадаюць на другую палову XX стагоддзя. Гэты час ў Беларусі адзначаны хуткай урбанізацыяй і русіфікацыяй. І ў гэтых працэсах не апошняю ролю адыгравала менавіта гітара. Па гарадскіх задворках загучалі блатныя куплеты пад славутыя тры акорды. Асабіста на "нашым двары" была вельмі папулярная песня пра трох сяброў-каўбояў. Гэтыя хлопцы былі вельмі спрытныя і ўдалыя, а галоўныя рэчы, якія іх заўсёды безумоўна суправаджалі былі: "*три ножа - три нагана*".

Прыкладна ў гэты час у Савецкім Саюзе нараджаецца жанр "аўтарскай песні". У атмасферы замкнёнасці, або па сучаснаму у коле "маладзёжнай тусоўкі", загучалі песні Высоцкага, Акуджавы, Галіча ды іншых меней знакамітых аўтараў. У студэнскія гады (1972-1977) заўсёды ў інтэрнатскіх пакоях можна была пачуць хрыплаваты голас Уладзіміра Высоцкага.

У Беларусі таксама расце колькасць прыхільнікаў самадзейнай песні. Беларускія барды намагаюцца імітаваць маскоўскіх "класікаў". Вельмі хутка расце колькасць вакальна-інстументальных ансамбляў, дзе галоўным музычным інстументам з'яўляецца гітара. У гэты час гітара ўжо не проста музычны інструмент. Яна набывае нейкі сваеасаблівы модны брэнд у маладзёжным асяроддзі. Музыкантаў-гітарыстаў ведаюць амаль усе. Быць музыкантам студэнскага ВІА вельмі прэстыжна. Пра іх "запускаюць" разнастайнія плёткі і яны вельмі папулярныя сярод дзяўчат. Кожны юнак, каб адпавядаць адпаведнаму ўзроўню ўсеагульнага захаплення павінен быў вельмі добра разбірацца дзе бас-гітара, дзе рытм-гітара, а дзе сола-гітара.

Аднак, уласна беларускім інструментам, гітары наканавана было стаць адносна зусім нядаўна. Ці не з таго самага часу, калі загучалі "Песняры". Мяркую, што даследчыкам беларускага руху неабходна будзе яшчэ вывучаць гэту гістарычную з'яву пад назвай "Песняры". З асабістага вопыта ведаю, як у 1971 годзе знаходзячыся ў горадзе Адэсе, я распавядаў пра Беларусь і з якой цікавасцю мясцовыя слухачы распытвалі мяне пра славутых на той час на ўвесь Саюз беларускіх "Песняроў". У гэты момант вялікі гонар напаўняў маю душу і я "з вышыні" пагляdaў на нейкіх там адэсітаў.



Потым з'явіліся "Верасы", "Сябры", "Чараўніцы", а праз колькі гадоў у Беларусь прыехаў са Злучаных Штатаў Амерыкі і даў некалькі канцэртаў беларускамоўны спявак Данчык. З гэтага часу (напрыканцы 1980-х гадоў) пачалося нараджэнне нацыянальнай бардаўскай песні і беларускага рок-н-ролу. За які дзясятак гадоў у гэтага жанра з'яўляюцца тысячы прыхільнікаў. Свае культавыя асобы, свае фэсты і тусоўкі. Гітара становіцца абавязковым атрыбутам дэмакратычных мітынгаў і нацыянальных вячорак.

Аўтару гэтых радкоў пашчасціла 21 чэрвеня 2014 года прысутнічаць на святкаванні 90-х угодкаў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Шмат людзей прыехала ў вёску Бычкі, на радзіму слыннага сына Беларусі, якога ведае ўвесь цывілізаваны свет. Ля хаціны Васіля Уладзіміравіча, сярод урачыстых прамоў, таксама адбылося і ўручэнне прэміі "За свабоду думкі", якую атрымаў Ві́ктар Антонавіч Шалкевіч — беларускі бард, акцёр, паэт. Уручыў памятную статуэтку лаўрэату Аляксандр Мілінкевіч, а сам лаўрэат, узяўшы ў рукі гітару, адзячыў прысутных невялікім канцэртам.

Усе прысутныя былі зачараваны хараством беларускага слова пад чароўныя гукі гітары. Яшчэ ў школе Віктар пачаў пісаць і выконваць песні на беларускай мове. «За частыя сустрэчы з дзецьмі і папулярызацыю сярод іх ведаў аб тэатры» гэты таленавіты чалавек быў узнагароджаны міжнародным Ордэнам усмешкі, кавалерамі якога з'яўляюцца Ян Павел II, Астрыд Ліндгрэн, Стывэн Спілбэрг і іншыя. Саркастычныя творы гарадзенца station становяцца ўспрымаюцца сучаснікамі як прыклад класычнага гумару. Шалкевіч з'яўляецца лаўрэатам рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў аўтарскай песні, у тым ліку «Басовішча-92», «Восень бардаў-93» (Польшча). З канцэртамі выступае ў Беларусі, Літве, Нямеччыне, Польшчы, Расеі, Украіне, Францыі, Чэхіі. Тэксты песень перакладзены на англійскую, нямецкую, польскую, укра-




*Урачыстае ўручэнне прэміі "За свабоду думкі"*

інскую і чэшскую мовы.

У Віктара Шалкевіча шмат паслядоўнікаў на Беларусі. І хоць яшчэ рана казаць, што гітара стала своеасаблівым сімвалам беларускай душы, XXI стагоддзе будзе безумоўна належыць ёй.

***Алесь ГРУДЗІНА.***

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**Адно з найбуйнейшых прадпрыемстваў - вытворцаў нятканых тэкстыльных матэрыялаў у Беларусі "Палітэкс", які раней узначальваў магілёўскі бізнэсмэн і ўжо былы член верхняй палаты парламента Віталь Кастагораў, будуць ліквідаваць, яго маёмасць прадаваць, а работнікаў звальняць. Пасля арышту Кастагорава прадпрыемства працавала яшчэ месяц, потым вытворчасць спынілі. Работнікі падалі на наймальніка ў суд. "Палітэкс" завінаваціўся персаналу зарплату за 7 месяцаў.**

**У Хоцімскім раёне супрацоўнікі інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі двух грамадзян Расіі з стрэльбамі. Ліцэнзіі на паляванне ў расейцаў не было. Адсутнічаў у іх і дазвол на ўвоз зброі на тэрыторыю Беларусі. Затрыманыя патлумачылі, што, маўляў, у расійскіх лясах стала мала дзічыны, вось і вырашылі папаляваць у суседзяў. Трафеі не здабылі, але праблемы набылі. Па факце парушэння дзяржмяжы з зброяй без дазваляючых дакументаў заведзена крымінальная справа, вядзецца следства.**

# Валерий Коронкевич требует...

Хотимский активист «Говори правду» Валерий Коронкевич продолжает добиваться от местных властей предоставления данных о смертности в Хотимском районе в разрезе заболеваний и информации о степени безопасности генераторов и антенн операторов сотовой связи, расположенных на здании местной ЦРБ.



6 февраля В.Коронкевич подал жалобу в Хотимский райисполком на имя и.о. председателя райисполкома Владимира Петровича. Ссылаясь на часть 1 ст. 46 Конституции РБ, в которой говорится о том, что *«каждый имеет право на благоприятную окружающую среду и на возмещение вреда, причиненного нарушением этого права»,* активист просит и. о. председателя обязать заместителя председателя Хотимского районного исполнительного комитета Козакову Ж. В. предоставить ему копии соответствующих документов о смертности в Хотимском районе в разрезе заболеваний, а также информацию о степени безопасности генераторов и антенн операторов сотовой связи на здании ЦРБ.

Валерий Коронкевич считает, что отказ Ж.Козаковой в предоставлении ему указанной информации является нарушением предусмотренного ст.34 Конституции РБ конституционного права на получение полной и достоверной информации о состоянии окружающей среды и деятельности государственных органов.

Активист «Говори правду» просит В.Петровича дать ему мотивированный ответ в установленные законом сроки, а также информирует о том, что оставляет за собой право начать сбор подписей жителей района под коллективным обращением о демонтаже вышек сотовой связи с крыши ЦРБ и одновременно подать в суд в случае не предоставления ему соответствующих документов.

«Я вынужден обратиться к и.о. председателя райисполкома, чтобы он дал соответствующее указание своему заместителю Ж.Козаковой и она предоставила мне интересующие меня данные, – говорит Валерий Коронкевич. – На мои неоднократные обращения Жанна Васильевна почему-то не реагировала должным образом и отвечала отписками. Между тем, я же не просил предоставить мне какую-либо личную информацию на кого-либо из жителей Хотимска, а лишь запрашивал статистические данные, а также техническую документацию о возможности установки данных объектов на крыше ЦРБ и копии заключений СЭС о степени безопасности этих объектов. Надеюсь, что Владимир Петрович всё же поможет мне добиться конкретного ответа от своего заместителя. Здесь хотимским чиновникам надо брать пример с депутата облсовета, первого заместителя председателя Могилёвского облисполкома Олега Чикиды, который своевременно дал довольно аргументированный ответ на моё обращение, несмотря на большую занятость».

Валерий Коронкевич убеждён в том, что размещение оборудования и антенн сотовой связи на здании ЦРБ в Хотимске вносит свою лепту в неблагополучную ситуацию с состоянием здоровья населения района. По его мнению, эту проблему надо решать уже в ближайшее время, поэтому он регулярно поднимает этот вопрос перед властями Хотимского района.

***Ирина БЕГАНКИНА.***

# Папулярызацыя беларускай мовы і літаратуры

Сёння ў нашым грамадстве шмат праблем: палітычных, эканамічных, сацыяльных. А да якой жа праблемы адносіцца праблема моўная?

Аблічча кожнай нацыі вызначае нацыянальная культура: разнастайная мастацкая творчасць, народныя рамёствы, традыцыі і звычаі, а ў першую чаргу – мова. Таму першы абавязак кожнага з нас – дасканальна авалодаць роднай мовай - жыватворнай крыніцай нацыянальнай культуры.

Не так даўно ўсе арганізацыі адукацыі і асветы распачалі акцыю папулярызацыі беларускай мовы і літаратуры. У пачатку 1990-х гадоў было Адраджэнне, а зараз Папулярызацыя?! Якім чынам адрадзіць, зрабіць папулярнай нашу мову, культуру, літаратуру? Каб на ей (мове) усе загаварылі, зацікавіліся, бо яна ж не горшая за іншыя мовы свету. Чаму ж нас, беларусаў, трэба прымусова актывізаваць вывучаць сваю мову, чытаць па-беларуску, размаўляць?

Большая частка нашых грамадзян – беларусаў не ўмеюць нават чытаць па-беларуску, а не толькі размаўляць. Таму сітуацыя з беларускай мовай сення складваецца дастаткова драматычна. Вось чаму і распачалася сумесная работа ў гэтым напрамку школ, бібліятэк і іншых адукацыйных устаноў.

На базе дзяржаўнай установы адукацыі “Сярэдняя школа №1 г. Магілева” адбыўся семінар-практыкум на тэму “Папулярызацыя беларускай кнігі ў прасторы школьнай бібліятэкі”, які меў мэту абмеркаваць і вырашыць такія важныя задачы, як скіраванне работы на стварэнне перспектыўных планаў па рабоце з нацыянальнай літаратурай; работа школьных бібліятэк па прапагандзе твораў сучасных беларускіх аўтараў для дзяцей школьнага ўзросту; актывізацыя работы бібліятэк у выкарыстанні інфармацыйных рэсурсаў.

Адкрыўся семінар літаратурна – музычнай вечарынай ”Голас памяці”, прысвечанай паэту–земляку Аляксею Пысіну. Гэтае мерапрыемства арганізавалі і правялі для удзельнікаў семінару Ірына Цінякова, галоўны бібліятэкар чытальнай залы ЦГБ імя К Маркса і Алег Дз’ячкоў, старшыня Магілёўскага аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На вершы А. Пысіна Галіна Сёміна і Мікола Яцкоў сачынілі музыку і самі ж спявалі.

Літаратурна – музычная вечарына суправаджалася электроннай прэзентацыяй. Для удзельнікаў семінару была афармлена выстава “Пакуль зямля твая жывая, і ты жывы…”, дзе былі змешчаны зборнікі твораў Аляксея Пысіна, а таксама матэрыялы аб яго жыцці і творчасці.

Загадчыца бібліятэкі сярэдняй школы №1 М.Грыневіч падрыхтавала з вучнямі 8-х класаў паэтычныя выступленні па творчасці А. Пысіна.

Важным момантам семінару было выступленне настаўніцы беларускай мовы і літаратуры С.Буяковай, якая спыніла ўвагу прысутных на вывучэнні новага Закону “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”.

Нельга не звянуць увагу на вельмі хворую праблему беларускай мовы - поўную адсутнасць практыкі сямейнага чытання дзецям па-беларуску. Толькі бібліятэкі могуць прапанаваць юным чытачам каштоўную практыку каменціраванага чытання.

Сярод публічных мерапрыемстваў школьнай бібліятэкі можна знайсці ўсё, што трэба, тэмы іх усеабдымныя. Бібліятэкары лічаць сваёй галоўнай задачай прыцягваць увагу да чытання літаратуры на беларускай мове, прапаноўваць айчынныя кнігі, творы беларускіх аўтараў. Сёння мы праводзім папулярызацыю беларускай мовы, літаратуры і культуры яшчэ і тым, што падбіраем і выпускаем друкаваныя выданні. Напрыклад, “Зерне ўваскрасае ў каласах”, буклет прысвечаны да 80-годдзя з дня нараджэння У. Караткевіча. Сярод вучняў распаўсюджваюць спецыяльныя закладкі, напрыклад, “Беларуская кніга чакае вас!”, буклеты “Прэм’ера кнігі”, “Увага! Навінкі серыі “Школьная бібліятэка” і інш.

Для удзельнікаў семінару была наладжана выстава навінак беларускіх аўтараў для дзяцей і падлеткаў. А галоўны бібліятэкар аддзела абслугоўвання школьнікаў старэйшых класаў абласной бібліятэкі В.Купрацэвіч зрабіла агляд навінак літаратурных часопісаў для дзяцей і падлеткаў.

Арганізатары семінара-практыкума прапанавалі ўдзельнікам мазгавы штурм “Формы і метады рэкамендацыі беларускай кнігі”.

У канцы семінара метадыст УМК раеннага аддзела адукацыі Т.Рыбалка прапанавала выкарыстоўваць прастору бібліятэкі для папулярызацыі беларускай кнігі і ўказала на новыя шляхі для рэалізацыі патрабавання, менавіта, айчыннай кнігі, параіла бібліятэкарам школ раёна наладзіць супрацоўніцтва з пісьменнікамі і паэтамі як партнёрства іншага ўзроўню,.

Зыходзячы з усяго папярэдне сказанага, трэба адзначыць, што папулярызацыю беларускай мовы і літаратуры трэба пачаць з выкарыстання акцыі часопісаў “Бібліятэка прапануе” і “Бярозка” – “Чытаем па-беларуску”, каб дапамагчы нашым дзецям павялічыць прысутнасць у іх чытанні нацыянальнай кнігі і каб аказаць пазітыўнае ўздзеянне на фарміраванне чытацкіх пераваг нашых суайчыннікаў.

*М. Г. ГРЫНЕВІЧ,*
*загадчыца бібліятэкі*
*ДУА “Сярэдняя школа № 1”*

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.02.2015 г. у 10.00.